# ПЕНТАГОН ПРЫЗНАЎСЯ Ў ЖУДАСНЫМ ЗЛАЧЫНСТВЕ

Міністэрства абароны ЗША прызналася ў жудасным злачынстве: ва ўжыванні ядавітых хімікатаў супраць паўднёвав'етнамскіх патрыётаў.

Ужыванне на вайне атрутных рэчываў было забаронена яшчэ Гаагскай дэкларацыяй 1899 года, а затым — Жэнеўскім пратаколам 1925 года. Праўда, Злучаныя Штаты, падпісаўшы Жэнеўскі пратакол, пазней адмовіліся яго ратыфікаваць. Аднак прынцыпы, выкладзеныя ў гэтых дакументах, пацверджаныя рознымі міжнароднымі дагаворамі і пагадненнямі, захоўваюць і для іх сваю сілу.

Цяпер Пентагон прызнаў, што растаптаў гэтыя прынцыпы. Прызнанне зроблена неахвотна, праз зубы — так прызнаецца пад цяжарам доказаў закаранелы злачынец. Сапраўды, цяжка адмаўляць тое, што ўжо даўно стала шырока вядома, пра што сам амерыканскі друк піша з дня ў дзень, як пра нейкую будзённую дэталь ваенных дзеянняў у Паўднёвым В'етнаме.

Паведамленні аб ужыванні амерыканскай ваеншчынай ядавітых рэчываў памнажаюцца з кожным тыднем. У апошні час стала вядома, напрыклад, аб распыленні амерыканскімі самалётамі ядахімікатаў у правінцыі Бен Чэ, дзе колькасць ахвяр ад атручвання дасягнула пяці тысяч чалавек. У многіх раёнах гэтай правінцыі на месцы зеляне́ўшых пасеваў засталася голая зямля; у павеце Зонг Чон загінула ўся хатняя жывёла. Згодна з іншым паведамленнем, атручаны многія жыхары раёна Канмаха: самалёты распылілі тут ядахімікаты над адной з рэк, і людзі, якія пілі ваду з ракі, цяжка пацярпелі.

Амерыканскае агенцтва Асошыэйтэд Прэс паведамляла, што ў правінцыяльным цэнтры Бентрэ адбыліся дэманстрацыі жанчын і дзяцей. Яны неслі плакаты з надпісамі: «Спыніце заражаць нашу ежу!» Паліцыя разганяла дэманстрантаў і правяла арышты.

Такія паведамленні і прымусілі, нарэшце, Пентагон прызнаць тое, што не ўдаецца больш замоўчваць. Усякі крыху вопытны злачынец выбірае, аднак, пэўную лінію абароны. Свая лінія абароны намецілася і ў амерыканскай ваеншчыны.

Прызнанне ва ўжыванні ядавітых рэчываў зроблена міністэрствам абароны ЗША ў форме... абвяржэння. Міністэрства заявіла, што ўзброеныя сілы ЗША ўжываюць у Паўднёвым В'етнаме не ядавітыя газы, а... ядавітую вадкасць. Прадстаўнік міністэрства сказаў, што хімічны састаў гэтай вадкасці «аналагічны саставу розных хімікатаў, якімі карыстаюцца фермеры».

Як кажуць, што ў лоб, што па ілбе. Паміж ядавітым газам і ядавітай вадкасцю няма ніякай прынцыповай розніцы. Ні адзін суд у свеце не апраўдае злачынца, які пабудуе сваю абарону на тым, што ён падліў яд у шклянку сваёй ахвяры, а не задушыў яе ядавітым газам.

АДН

## ВЕСТКІ з БССР

# БЕЛАРУСЬ — БАЗАЙ ЖЫВЕЛАГАДОЎЛІ

Нядаўна М. С. Хрушчоў звярнуўся ў Прэзідыум ЦК КПСС з новай прапановай у галіне сельскай гаспадаркі: аб яшчэ большай спецыялізацыі сельскай гаспадаркі ў Беларусі, прыбалтыйскіх рэспубліках і паўночна - заходніх абласцях Расійскай Федэрацыі.

Гутарка ідзе аб напрамкавасці ў развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі і іншых раёнаў, аналагічных па прыродных і кліматычных умовах. Гэта датычыць Латвіі, Літвы, Эстоніі, паўночна - заходніх абласцей Расійскай Федэрацыі, такіх, як Ленінградская, Наўгародская, Пскоўская, Валагодская, Архангельская. Сюды ж можна далічыць і Маскоўскую, Смаленскую, Кастрамскую, Яраслаўскую і некаторыя іншыя.

Тут не заўсёды спрыяльныя ўмовы для вырошчвання збожжа, асабліва для яго ўборкі. Момант уборкі ўраджаю супадае з выпадзеннем вялікай колькасці ападкаў, што ўскладняе ўборку збажыны, сушку зерня, прыводзіць да вялікіх страт ураджаю.

Калі прааналізаваць вядзенне зерневай гаспадаркі ў гэтых раёнах, то можна ўбачыць немалыя цяжкасці ў арганізацыі таварнай збожжавай вытворчасці. Тут невялікія масівы зямель, немагчымасць ужывання больш магутнай тэхнікі, што зніжае прадукцыйнасць збожжа. У выніку сабекошт збожжа вельмі высокі. Пры рыначных адносінах такое збожжа не можа канкурыраваць са збожжам, якое вырошчваецца ў больш спрыяльных умовах, дзяржаве яго нявыгадна купляць. Сабекошт тоны збожжа (без кукурузы) у саўгасах склаў у 1962 г (у рублях):

па саўгасах СССР — 48
у Беларусі — 140
у Растоўскай вобласці — 17
у Краснадарскім краі — 19.

У Беларусі, прыбалтыйскіх рэспубліках і іншых раёнах, аб якіх ідзе гутарка, дзяржава закупляе 25 — 30 мільёнаў пудоў збожжа. Гэта колькасць невялікая. Патрэбы дзяржавы ў збожжы можна поўнасцю задаволіць за кошт тых зон, дзе вырошчваюць збожжавыя культуры найбольш выгадна. А тут можна атрымліваць таннае мяса і малако, г. зн. значна пашырыць жывёлагадоўлю. Для гэтага, відаць, спатрэбіцца адмовіцца ад закупак таварнага збожжа ў гэтай зоне і сканцэнтраваць намаганні на павелічэнні вытворчасці кармоў.

— Трэба паставіць задачу, — сказаў М. С. Хрушчоў, — усямерна развіваць тут малочна - мясную жывёлагадоўлю, свінагадоўлю, а таксама птушкагадоўлю.

Цяпер практыкай многіх калгасаў і саўгасаў даказана, што тут добра родзяць кукуруза, цукробыя буракі, гарох, боб, лубін і іншыя каштоўныя культуры. Якраз у гэтай увільготненай зоне добра расце і дае высокі ўраджай гарох на зялёны корм. Сіласаванне гарохавай і лубінавай масы ў сумесі з кукурузай, на думку вучоных і практыкаў, выгадна. Атрымліваецца каштоўны камбінаваны корм, узбагачаны бялком.

У Беларусі, прыбалтыйскіх рэспубліках і раёнах, падобных да іх па кліматычных умовах, добра растуць цукровыя буракі. Гэта таксама пацверджана практыкай. Цукровыя буракі — выдатны корм.

Для бульбы таксама тут нядрэнныя ўмовы. Гэта зона здаўна лічыцца бульбяной зонай, і асабліва ў Беларусі і некаторых іншых раёнах, дзе пясчаныя глебы. Там выдатна расце бульба. Яе вырошчваюць для

(Працяг на стар. 4)

## Хроніка

У мінулым тыдні адбыліся павятовыя агляды драмгурткоў БГКТ у Міхалове, Чыжах і Гайнаўцы. У Беластоцкім павеце першае месца атрымаў аматарскі калектыў з Пянькоў за п'есу «10 гектараў», а ў Гайнаўскім павеце — самадзейнікі са Скупава за пастаноўку «Прымакі».

У гуртку БГКТ у Чаромусе адбыўся справаздаўча - выбарчы сход, на якім было выбрана новае праўленне на чале з Аляксандрам Салінскім. Выбраны былі таксама дэлегаты на канферэнцыю ў Гайнаўцы.

У рады БГКТ сход прыняў 9 новых членаў. Зараз гурток гэты налічвае 34 асоб. Удзельнікі сходу пастанавілі арганізаваць аўтарскія спатканні з паэтамі, запрасіць з канцэртам эстраду «Лявоніху» і павялічыць колькасць падпісчыкаў «Нівы».

Гурток БГКТ у Горнай налічвае 58 членаў. На апошнім сходзе гуртка былі абмеркаваны справы рэгулярнага аплачвання членскіх складчын, пакупкі тэлевізара, арганізавання экскурсіі. Гурткоўцы выбралі таксама 3 дэлегатаў на справаздаўча-выбарчую канферэнцыю ў Гайнаўцы.

Нядаўна гурток БГКТ у Збучы на справаздаўча-выбарчым сходзе выбраў новае праўленне, якое ўзначаліў Яўген Красько, і прыняў 18 новых членаў.

На справаздаўча - выбарчым сходзе гурток БГКТ у Чыжах выбраў новае праўленне, старшынёй якога далей засталася Люба Сегень. Выбраны таксама дэлегаты на павятовую канферэнцыю і абмеркаваны план працы на II квартал 1963 года.

Цёпла сустрэлі жыхары Збуча, Чыжоў, Кленік, Вялікіх Тынявіч, Дубіч і Скупава эстраду ГП БГКТ «Лявоніху», якая выступіла там са сваімі канцэртамі.

31 сакавіка ў Гайнаўскім Доме Гарняка адбыўся ваяводскі агляд мастацкіх калектываў БГКТ. Найлепш выпалі выступленні калектыва з Левак, які паказаў п'есу «Здарэнне на кірмашы». Леўкаўскія самадзейнікі 14 мая будуць выступаць з гэтай пастаноўкай у Варшаве на цэнтральным аглядзе мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей у Польшчы.

На другое месца камісія закваліфікавала аматараў сцэны з Новага Вострава, на трэцяе — з Паўлаў, на чацвёртае — са Скупава.

## Спорт

Апошняя нядзеля прайшла пад сцягам футбола. Апрача І-ай і ІІ-ой ліг, якія правялі чарговыя гульні, у спаборніцтва ўключылася ІІІ ліга. Урэшце, выстартаваў XXV юбілейны чэмпіянат СССР.

У першай лізе вялікая неспадзянка — віцэлідэр, саснавецкае Заглэмбе, прайграў на ўласным полі шчэцінскай Пагоні. Гэта дазволіла лідэру Гурніку адарвацца на 3 ачкі, і тым самым барацьба за першае месца страціла на нейкі час напружаную цікавасць. Затое, улічыўшы чарговую перамогу хожаўскага Руху, узнікла гарачка вакол другой пазіцыі. Бароніць яе Заглэмбе, атакуюць — Палонія і Рух.

У ІІ лізе Шамберкі яшчэ на ачко павялічылі разрыў, і цяпер да найбліжэйшага суседа па турнірнай табліцы маюць яны аж 7 ачкоў перавагі.

У беластоцкай лізе вясенні круг пачаўся без неспадзянак. Бельскі Тур, які ў папярэднюю нядзелю выйграў высока ў гайнаўскай Пушчы, не апраўдаў спадзяванняў у сустрэчы з футбалістамі з Чорнай Беластоцкай, прайграўшы апошнім у сябе 2:3

Аб сапраўдным узроўні каманд цяжка яшчэ сказаць нешта канкрэтнае. Ну, бо як ацаніць разгром, які пасля пройгрышу з Турам учыніла ў таварыскім матчы Пушча лапскай Пагоні (10:1). Прыпомнім, што Пушча гуляе ў класе «А», а Пагоня — ў ІІІ лізе.

У СССР выстартавала 20 футбольных каманд першай групы. Сезон пачаўся тут, як ніколі, рана. Прычына — зварот да сістэмы розыгрышу ў два кругі, кожны з кожным. Гульні пачаліся на Поўдні. Аб выніках іх — у наступным нумары.

Аут




### ПА ПЯТАХ

Ота і Берта Шталекер пайшлі. Аскер паспешна пераадзеўся, наблізіўся да люстра. Адтуль на яго глядзеў чалавек у мешкаватым гарнітуры, са змучаным тварам.

— Добры, — прамармытаў ён, пераклаў у кішэні пінжака і нагавіц дакументы, пісталет, цыгарэты з запалкамі і выйшаў.

Правёўшы Берту і Ота да дому нябожчыка, ён уздыхнуў з палёгкай. Праверка прайшла шчасліва. Механік і яго жонка ні з кім па дарозе не гаварылі, не падыходзілі ні да аднаго са шматлікіх тэлефонаў - аўтаматаў, якія сустракаліся па дарозе.

Шталекеры скрыліся ў доміку Ланге. Аскер не спяшаючыся рушыў назад, пільна прыглядаючыся

94

да таго, што дзеецца на вуліцы. Ці правільна ён зрабіў, застаючыся ў Остбургу? Пасля смерці Герберта, здавалася, ужо нішто не мяшала яму адправіцца ў суседні горад, дзе было трэцяе сховішча. Аднак паехаць туды — значыла ўратавацца самому, але затрымаць выкананне задання. А тут была яшчэ надзея... І ён не памыліўся: удалося галоўнае — ён звязаўся з Шталекерам!

Разважаючы так, Аскер дайшоў да скрыжавання і раптам адчуў, што за ім сочаць. Мабыць, здалося, што сустрэты па дарозе чалавек у ясным паліто надта ўжо ўважліва на яго паглядзеў?

Аскер выцягнуў цыгарэты і запалкі, нібы прыпадкова ўпусціў пудэлка. Падымаючы яго, асцярожна азірнуўся. Так — той, у ясным паліто, павольна ішоў следам.

Гэта быў Адольф Торп.

Да сільных, валявых людзей прыходзіць у мінуту небяспекі вельмі вялікі спакой і яснасць думкі. Гэта дазваляе вокамгненна ацаніць становішча, прыняць патрэбнае рашэнне, быстра і дакладна ажыццявіць намечанае.

Такую якасць Аскер меў. Ён прайшоў сотню крокаў, яшчэ сотню, спыніўся ля вітрыны магазіна, нібы аглядаючы выстаўлены тавар, скасіў вочы ў бок. Чалавек у ясным паліто не адставаў.

95

Усё канчаткова высветлілася. Працягваючы шлях, Аскер памалу апусціў руку ў кішэню, намацаў пісталет, адбяспечыў.

Ззаду яшчэ адзін квартал. Далей пачынаецца вуліца, забудаваная шматпавярховымі дамамі. І адзін з іх, трэці ад вугла, — з некалькімі дварамі Здаецца, прахаднымі. Учора, калі яны з Ланге ішлі да Шталекера, непадалёк ад гэтага будынку сляпы старэча прадаваў газеты. Ага, вось ён — на сваім месцы. Крыху далей, уваход у першы двор — вузкі тунель. Да яго паўсотні крокаў. Дом з пераходнымі дварамі! У Аскера перахапіла дыханне. Дык аб іх, вядома, ведае і той, што ідзе следам. Ведае і, зразумела, не будзе чакаць на вуліцы — кінецца за ім у тунель.

«Добра, — вырашыў Аскер, — хай ідзе!»

Вось і дом — цагляны гмах. Каб толькі людзей не было ля ўваходу!

Брама была свабодна. Аскер прымусіў сябе спакойна падыйсці да яе і — кінуўся ўцякаць. Каўзануўшы ў браму, ён адскочыў у бок і прытаіўся ля сцяны, прыкрыўшыся адной з палавінак дзвярэй.

Прайшла секунда, другая, пачуўся шум крокаў.

( Працяг на стар. 4)

96

СПРЭЧКІ

# АРЛЫ БЕЗ КРЫЛАЎ

Не, не збіраюся нават прабаваць клеіць дэфініцыі сучаснага верша наогул, аб беларускай паэтычнай творчасці — у прыватнасці; не маю таксама намеру распісваць рэцэптаў нашым беларускім паэтам, якія жывуць і твораць у межах нашай краіны, у межах Народнай Польшчы. Поўнасцю згаджаюся з Алесем Барскім, калі сцвярджае ён, што такія рэцэпты ці дэфініцыі зусім немагчымы.

Ведучы спор аб паэзіі, аб яе стане, аб тым, якая яна ёсць і якая мае быць, неабходна, на маю думку, мець заўсёды на ўвазе функцыю, прыпадаючую паэтычнай творчасці ў канкрэтных умовах.

Калі не было ні радыё, ні тэлебачання, ні кіно; калі газеты ці журналы не з'яўляліся штодзённым хлебам кожнага дарослага чалавека, тады верш, згода, быў крыніцай інфармацыі і аб свеце, і аб розных здарэннях, і аб перажываннях людзей. У форме даступнай, лёгкай ды прыемнай верш адначасова бавіў і інфармаваў, з'яўляўся фактарам шырокага ўздзеяння на грамадства.

Зараз сродкі масавай інфармацыі вызвалілі паэзію ад яе інфармацыйнага, павествавальнага характару. Газеты, радыё, тэлебачанне, кінахроніка шмат больш дасканала ды не параўнальна хутчэй выпаўняюць гэтыя заданні.

Карэнна тады змянілася функцыя паэзіі. Сучасны чытач, на маю думку, шукае ў паэтычным творы адлюстравання сваіх як найбольш інтымных, глыбока закрытых, чыста асабістых перажыванняў, адлюстравання свайго псіхічнага стану.

Таму зараз нейкім анахранізмам выдаецца мне эпіцкая апісальная форма верша, якая часта пераплятаецца сярод радкоў таго, што піша Віктар Швед, а часам Алесь Барскі.

Верш родзіцца з уздзеяння рэчаіснасці, акружаючай паэта, але гэтую рэчаіснасць паэт прасейвае праз сваё, яму аднаму толькі ўласцівае, адзінае сіта. Вынік, зразумела, залежыць ад паэтычнага таленту пегасаўскага слугі, ад яго здольнасці адчування акружаючай рэчаіснасці, ад багацця, урэшце, яго асабістых перажыванняў.

Верш, нават аптымістычны, радасны, родзіцца з болем, як дзіця, і ў болю пачынае сваё жыццё.

Справа, на маю думку, зводзіцца да таго, ці паэт з'яўляецца носьбітам даволі багатай эмацыянальнай нагрузкі, ці ў яго творчых нетрах дастаткова накапілася болю або радасці, ад якіх ён не можа знайсці спакою, ці ён наогул мае што - небудзь пераказаць чытачу, каб заспакоіць яго пошукі ў выяўленні асабістых перажыванняў.

Мяркую, што менавіта як вынік такога псіхічнага стану з'явіліся між іншым вершы «Хлопцы белавежскія» А. Барскага, «Беласточчына» В. Шведа ці верш без загалоўка аб маці Я. Бурша.

Верш, звязаны з паэтам, як дзіця праз пупавіну звязана са сваёй маці. Жыццё і кшталт верша залежаць тады ад складу крыві, якая наплывае праз ніці, звязваючы яго са сваім стваральнікам. Верш нельга адарваць ад найбольш скрытых перажыванняў аўтара. Калі гэта здараецца, верш затрачвае свой твар, застаецца бязвыразным, штучным.

У апошнім сваім выступленні Віктар Швед шырока праводзіць абарону свайго метаду вершаскладання, канчаючы сцвярджэннем, што неадступіць ён ад сіляба-танічнага верша. Мне здаецца, што няма зусім патрэбы, каб ён ад яго адступаў. У апошнім часе сярод польскіх маладых паэтаў наглядаецца наварот да захоўвання ўсіх форм класічнай паэзіі. Для прыкладу, Эрнест Брыль апублікаваў нядаўна новыя вершы ў так традыцыйнай, але адначасова вельмі труднай форме, якой з'яўляецца класічны санет, з захаваннем характэрнага парадку рыфмаў, зваротак і рытму. Важна толькі тое, што змешчана ў той традыцыйнай форме, які лагічны сэнс надае ёй паэт.

Віктар Швед напэўна з'яўляецца таленавітым паэтам. Але ў некаторых яго вершах (для прыкладу, «Медны коннік» з апошнеапублікаваных) выяўляецца недапрацаванасць, недахоп паэтычнай тонкасці, думкі, вобраз паглынае імпрэсію, а гэта ўсё разам стварае ўражанне, быццам верш напісаў нейкі школьнік, а не таленавіты паэт з вялікім, як не гавары, творчым вопытам.

Ну што ж, гэта ўсё, што хацеў сказаць. Астаецца толькі пажадаць нашым сябрам — паэтам далейшых поспехаў у нялёгкай творчасці. Яны напэўна з'яўляюцца арламі беларускай інтэлігенцыі, пражываючай у Польшчы. Вельмі добра было б, каб нехта пастараўся знайсці эліксір на буйнейшы рост крылаў у гэтых арлоў. Больш ім нічога не трэба.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

Аўтаномная старонка літаратурна-мастацкага аб'яднання

„Белавежа"

№ 53

## ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

**ГП БГКТ і Праўленне Літаратурна - мастацкага аб'яднання «Белавежа» аб'яўляюць конкурс на тэму:**

**«Сучасная беларуская вёска»**

**(вершы, сцэнічныя творы, апавяданні, нарысы).**

**Найлепшыя творы будуць узнагароджаны грашовай прэміяй і надрукаваны ў «Ніве» або ў літаратурных зборніках.**

**Узнагароды:**

**1 — 1.200 зл.**

**II — 2 па 700 зл.**

**III — 3 па 300 зл.**

**У конкурсе могуць прыняць удзел як члены літаратурнага аб'яднання, так і іншыя асобы, зацікаўленыя гэтай тэмай.**

**Творы трэба дасылаць на адрас: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego, Białystok ul. Warszawska 11.**

**З прыпіскай «Літаратурны конкурс». Тэрмін дасылкі твораў 30 верасня 1963 г.**

**Пры ацэнцы журы асаблівую ўвагу зверне на сцэнічныя творы для мастацкай самадзейнасці.**

САКРАТ ЯНОВІЧ



## ПРЫЕХАЎ

Глянь, маці, на сына. Ён сумны стаіць, бамбіза, і не ведае, куды падзець рукі? Падымі, маці, вочы. Ён здалёку прыехаў наведаць гаспадарку. Запытай, маці, як жывецца яму? Ён даўно пакінуў цябе адну на загоне запушчаным. Прытуліся, маці, да шчакі. Ён не асмеліцца пацалаваць руку тваю. Прыгалуб, маменька, кучму яго раскудлачаную. Ён вялікі ўжо чалавек і жаніцца будзе.

А пра нявестку нашто табе ведаць, маці? Ты ж у вёсцы свой век дажываеш.

## ЧАГО?

Чаго на марозе мерзнеш? Каб бляскам сонца нацешыцца... Чаго ля школы прыпыніўся? Хочаш у снежкі з дзяцьмі гуляць... Чаго ў другі бок адвярнуўся? Бач, настаўніца твая ідзе! Дзяцінства тваё ідзе! Скінь капялюш, пакланіся...

## Прыгожай

Думаеш, што ўвесь свет ля ног тваіх ляжа і ласкавай усмешкі папросіць? Дарэмна мучыш сябе снамі непраўдзівымі ды годы маладыя траціш. Думаеш, што станам стройным жыццё ашукаеш і бляскам сваім яго асляпіш? Не выракайся мазаля працавітага ды горычы слёз. Думаеш, што шчасце ў целе раскошным тваім і бяздумных чорных вачах? Не кожнаму дана трывожнасць кахання ды радасць ягоную адчуць.

Прыгожая ты, але на цябе можна толькі паглядзець, бы на куст ружы дзікай пры гасцінцы, і пайсці далей...

Алесь БАРСКІ

## ЛІСТ ДА МАТКІ

На далонях тваіх
маршчыны — дарогі
лініі
смутку
надзеі
кахання
па лініях гэтых
дзяцінства маё
басаногае
рачкавала ад рання
да рання.
Да мяне прыплывалі
лебедзі ў змроку —
далоні у напоўнены
ласкай
са смутку
красалі песню
з надзеі
красалі казку.
Памятаю
зімовы вечар
ціхі спеў калаўрота
пах прэлага жыта
на печы
і стрэлы марозу
за плотам.
З рук Тваіх
нітка як промень
з сонца-кудзелі
бегла няспынна
з вуснаў
жывою крыніцай
струілася песня-быліна
для сына для сына.
Памятаю замовы
сядзеў на парозе
акутаны вечарам шэрым
Ты сеяла попел
і сеяла словы
ад страху
ад жаху
ад злога
благога
Ты бараніла
таемнаю сілай
і я Табе верыў.
Памятаю
вадзіла мяне Ты ў поле
на сцежкі русалак
валошку зрывала
букецік вязала
з усмешкі.
І слёзы Матуля Твае
памятаю
слёзы ад слоў маіх
непраўдзівых
учынкаў нягодных.
Сягоння я іншы
сягоння
другі я.
Прабачце Матуля
учынкі благія
і словы благія.
Прабачце Матуля
мне неадказнасць
паступкаў дзіцячых
паступкаў юначых.
Прабачце ўсё тое Матуля
што сам я сабе
не прабачу!

ЮРКА ЗУБРЫЦКІ

## СВАРОЖЫЧЫ

Прашчур наш дыялектыкі не ведаў,
І не ведаў метадаў другіх.
Увабраўшы ў сябе сілу нетраў,
Ен узняўся з тваністай дрыгвы.

У нямым пайшоў ён захапленні
На высокі бераг не знарок.
Там, сардэчна ўпаўшы на калені,
— Слаўся, — вымавіў, — Сварог!

Ідуць гады, праносяцца стагоддзі,
Распароў дрыгву стальны рапір,
А Сварог з Сварожычамі ходзіць
Берагам завілістай ракі.

## ЛІТАРАТУРНАЕ СЯБРОЎСТВА

Апошнім часам наладзілася цеснае супрацоўніцтва паміж варшаўскімі аддзеламі нашага і рускага таварыстваў у галіне літаратурнага абмену.

Як мы ўжо інфармавалі, у нашым аддзеле адбыўся літаратурны вечар рускага паэта Георгія Саргоніна, цяпер у сваю чаргу рускае таварыства арганізавала ў сябе сустрэчу з Віктарам Шведам.

Варта адзначыць, што на гэтае супрацоўніцтва паміж нашымі брацкімі арганізацыямі звярнула ўвагу «Трыбуна Люду» ў інфармацыі за 16.III.63 г. п.з. «Паэтычныя вечары ў БГКТ», падкрэсліваючы што такія вечары з'яўляюцца цікавымі мерапрыемствамі. «Т. Л.» адзначыла таксама цесныя кантакты рускіх і беларускіх паэтаў з польскімі літаратарамі.

(р. л.)

# У ГОНАР ГОДА БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

Некалькі год таму назад даехаць да Юшкавага Груда, Шымак ці Ялоўкі зімой і на пачатку вясны было немагчыма з-за дрэнных дарог. У Міхалове неабходна было перасядаць на воз або сані. Іншы транспарт у гэтай аколіцы быў непрыгодны.

Зусім інакш зараз. Зараз пабудавана там простая шырокая жвіравая дарога, якая з двух бакоў абсаджана дрэвамі. Па ёй ездзяць ПКС-ы. Жыхарам далёкіх вёсак стала вельмі выгадна. Яны могуць самаходам даязджаць і да Міхалова, і да Заблудава, і да Беластока.

Асаблівай увагі заслугоўвае факт, што гэтую прыгожую дарогу пабудавалі сяляне грамадскім чынам.

1963 год аб'яўлены годам Беластоцкай зямлі. Сяляне адзначаюць яго новымі працоўнымі дасягненнямі, сярод якіх нямала займаюць месца дарожныя чыны.

На нядаўна адбыўшымся ў Юшкавым Грудзе пленуме грамадскага камітэта Фронту народнага адзінства зацверджаны новыя планы дарожных чынаў. І так вясковыя дарогі паміж вёскамі Цiванюкі - Кухмы, Бандары — Рыбакі, Аднога — Плянта да 1 лістапада б.г. будуць акопаны равамі, выжвіраваны і абсаджаны дрэвамі.

Жыхары вёскі Баршчэва наладзяць 500 метраў дарогі, якая вядзе да Плянтаў. Дарогі, злучаючыя вёскі Бандары — Гарбары, Плянта — Новая Воля, зараз звілістыя, няроўныя. Гэтай вясной яны будуць выпраставаны і даведзены да парадку.

У такіх вёсках, як Сахаркі і Сушча, вуліцы таксама няроўныя, платы ставяць гаспадары там, дзе ім падабаецца. Згодна з планам грамадскага камітэта ФНА да 1-га мая будзе гэта справа ўладжана.

У вёсках Рудня, Таніца Горна, і Таніца Дольна не даведзена да канца жвіраванне вуліц. Сяляне забавязаліся там бягучай вясной закончыць пракладку маставых.

Многа грамадскай працы будзе ўкладзена жыхарамі Бендзюгі. Яны на дарозе заложаць тры бетонных водных пропускаў, навозяць жвір на грэблю, спалучаючую вёскі Супруны — Калёсьна, зажвіруюць 400 метраў дарогі, якая вядзе да Міхалова і пашыраць вуліцу на адрэзку 150 метраў у Супрунах.

Найбольшыя працы ў гонар года Беластоцкай зямлі будуць праведзены ў Юшкавым Грудзе. Там грамадскім чынам будзе пабудавана вялікая крама, злеўня малака і гаражы на сельскагаспадарчыя машыны для мясцовага сельгасгуртка.

Апрача таго, што кожная вёска абавязалася грамадскім чынам выканаць тыя ці іншыя работы, існуюць планы супольных прац. Да іх адносяцца карчаванне меліярацыйнага аб'екту на абшары 160 га, пракладка даезду да сенажаці, дзе прадбачана 1 км дарогі акапаць равамі.

Згодна з пастановамі вышэй успомненага пленума ўсе платы ва ўсіх гаспадароў грамады павінны быць наладжаны, а пры кожнай хаце павінен быць агародчык кветак.

Вартасць працы грамадскім чынам у Юшкавым Грудзе складзе суму больш як паўмільёна злотых. Зразумела, сума гэта немалая. І калі б у кожнай грамадзе было запланавана і выканана столькі прац, колькі будзе ў Юшкавым Грудзе, дык тады Беласточчына годна адзначыла б год сваёй зямлі.

М.Х.




(Працяг са стар. 1)

шаў да суседзяў, за сцяну. Дыхнуць. Мо' каб не глядзець на гэтае ўсё, ужо ж вельмі надакучыла. Толькі не Піліпу. Ён яшчэ не закончыў. Гарэлка не выветрываецца з галавы так хутка. Чарвяк точыць. «Ты сякаянітакая, туды тваю маць, ты з ім!..»

Сцяна да суседа тонкая. У Косці неспакойна на сэрцы. «Пайду, нешта там шумна, можа будзе маму біць?»

Піліп сядзеў у пакоі пры акне. «За што ж вы, тату, мяне білі? Я вам грошы не даў, бо бачыў, што вы былі і без таго п'яныя, вы б яшчэ пілі. На папяросы вы прасілі, то я вам даў...»

...Вастрыё нажа пракалола Косцю жывот. Неспадзявана, без слова. Так хутка, што пакуль Косця паспеў крыкнуць, той самы нож бацька сунуў яму вышэй, у грудзі. Не трапіў у грудзі, нож слізнуў па рэбрах пад рукой і толькі царапнуў.

Абое — сын і бацька пайшлі ў шпіталь. Абое, бо і Піліп аказаўся з лёгкай ранай на назе.

«Навошта ён сябе раніў?.. Думаю, што хацеў паказаць, што і ён пацярпеў, што і ён няшчасны». — Насця змаўкае.

Перад ад'ездам у шпіталь Піліп заявіў: «Як вярнуся, усё роўна ўсіх перарэжу».

І калі пасля тыдня выпісалі яго са шпіталя, выпісаўся і сын, хоць яму было яшчэ рана. Пагроза бацькі і свежы доказ на жываце, што ўсё можа быць. У хаце маці, сястра!

*

Піліпа нарэшце судзілі. Дастаў паўтара года. Насця расказвае: «Шкада неяк зрабілася. У судзе, як прывялі, быў такі якісь харошы. Твар пабялеў ад таго, што не піў, вочы сталі нармальныя... Заўсёды меў страшны, чырвоны, дзікі твар, не людскі. Гарэлка трымала яго заўсёды ў шпонах. Нават як і не п'яны, то іншай мовы не было, толькі кругом: той піў, там выпівалі, тыя папіліся... Часам думаю, можа то і грэх, што ён у турме. Бацька... Свой... Спакойна цяпер, то праўда. Але аж баюся думаць, што будзе, як вернецца».

Боязнь Насці абгрунтавана. І для сябе робіць яна лепш, што стараецца не думаць аб тым, што будзе. (Бывае і так). Паўтара года спакойнага людскога жыцця, спакойнага сну — гэта таксама нешта значыць у жыцці жанчыны, якая ад 20 год безупынна не была пэўная здароўя і жыцця.

Але Насця праз 20 год не атрымала ад нікога ніякага ратунку, ніякай рады і не чакае. Не ведае, нават, што павінны ёй памагчы, заступіцца. Насця нясе свой крыж пакорна і без наракання.

А Піліп разрабляў, біў, піў. І нікога ў Орлі гэта не датычыла, адну Піліпчу і яе дзяцей. Ніхто, акрамя голага часам спачування, не выцягнуў сяброўскай рукі.

Урад выдаў пастанову, што нецвярозым забаронена прадаваць гарэлку ў крамах, рэстаранах, гасподах. Піліпу ў Орлі ў гасподзе ніколі не адказалі ў гарэлцы.

Прадаўшчыкі гасподы — мясцовыя — ведалі, што ад іх Піліп пойдзе дахаты, будзе таўчы, мучыць сям'ю. Ведалі і пра пастанову ўрада. Яна напэўна ляжыць у стале кіраўніка. Але што каму да Піліпа і яго няшчаснай сям'і! Піліп — жалезны кліент, дае зарабіць, прэмія будзе — гэта важна.

П'яніц, якія неадпаведна захоўваюцца ў рэстаране, трэба з яго вывесці. Гэта таксама наказ. Піліпу і яго сябрам і тут рабілася выключэнне. Прыдзе час, сам выпаўзе і зваліцца пад плотам. Думаю, калі Піліп вернецца і мо' зноў зойдзе ў гасподу, адмовяць яму лішнюю чвэртку ці не?

П'яніц, якія здзекваюцца над сям'ёй і могуць быць небяспечнымі (Піліп выразна даказаў і апошняе), урадавая пастанова наказвае лячыць. Калі не хоча сам добраахвотна, тады лячыць прымусова.

Для пэўнасці званю да др. Зморскага — спецыяліста па псіхічнаму здароўю. Пытаю, хто павінен быў зацікавіцца такім індывідыумам як Піліп. Доктар адказвае, што сям'я паведамляе грамадска - лекарскую камісію (Komisja społeczno - lekarska), якая ёсць у павеце. Тая выступае з прапановай у суд. Той выдае пастанову аб прымусовым лячэнні. Алкаголіка забіраюць у шпіталь і лечаць, або на месцы лечаць. Калі не хоча сам хадзіць, міліцыя водзіць.

— Усё добра, — кажу, — але сям'я аб усім гэтым не ведала. Піліпча не ведала ўсіх гэтых простых і мудрых спраў. Хто ёй павінен быў выясніць, хто на месцы ў вёсцы за гэта адказвае?

— Найбліжэйшы лекар, найбліжэйшы пункт аховы здароўя.

Калі вернецца Піліп і, не дай Бог, зноў будзе піць, арлянская служба здароўя паможа тады ўжо Піліпчы і яе сыну лячыць бацьку ці не?

Лячэнне алкаголікаў цяжкое, няўдзячнае, доўгае. Вымагае гадоў. Пачатак Піліпу зробіць турма, дзе напэўна не дастане гарэлкі. Але потым? Як вернецца вольны, сам сабе пан? Да добрых калегаў па бутэльцы? Ці не варта, маючы на ўвазе ўспомненую антыалкагольную пастанову ўрада, узяцца і за гэтых калег Піліпа. Што нажа яны яшчэ не ўсадзілі свайму дзіцяці ў жывот? Тым лепш. Адклад не ідзе ў лад. Піліп даказаў.

Піліпча расказвала мне, як, здабыўшы адну нейкую пілюлю, думала, абы толькі неяк даць з'есці яе Піліпу і ён перастане піць. Якім вялікім можа быць людское няведанне. А пад бокам у Піліпчы пункт аховы здароўя, лекары, якіх вучаць усведамляць людзей.

Піліпча не хоча думаць, што будзе. У добрай веры пішу, што калі Піліп вернецца і ўздумае пайсці старой дарогай, супраць яго, для яго ж і сям'і дабра і шчасця стане мур людзей разумных і добрых — працаўнікі аховы здароўя — лекары і медсёстры, прадаўшчыцы гасподы, міліцыянеры. Сіла і воля калектыву пераможа небяспечнага саракаградуснага ворага. Мо' прыдзе яшчэ і для Насці радасны час...

ВЕРА ЛЕЎЧУК

# Як зарабіць 30000 у месяц

Іх спаткаем усюды. Ходзяць па вагонах, спяваюць, рыпаюць на гармоніку і працягваюць шапку. Сядзяць пад царквамі, шэпчуць, выцягваюць рукі. Стукаюць у дзверы — падарыце, буду за вас маліцца. На тратуарах, на сходах крамаў, пад сталоўкамі — іх безупынны лямант «людзі добрыя, брату свайму...» Адзеты ў лахі, брудныя, зашмальцаваныя, чакаюць літасці наіўных. Смярдзяць часта здалёк гарэлкай.

Людзі праходзяць побач. Адны праходзяць, другія затрымліваюцца. Рука ў кішэню, у торбу, бразь 50 грошы, 1 зл., 2 зл.

Сядзіць такі «няшчасны» на тратуары пад акном ваяводскай пракуратуры і заграбае залатоўкі. Гляджу 5 мінут на гэтую камедыю. Часта аж чарга ўстаўляецца да «беднага». Сыплюцца манеты ў шапку, сыплюцца. «Бедны» кланяецца, кланяецца на ўсе бакі і хавае грошы ў бяздонную кішэню.

Людзі, лепш адзетыя, відаць гарадскія, праходзяць міма, а горш адзетыя, у кажухах, без сумнення з вёскі, даюць, даюць. Добрыя, шчодрыя, сардэчныя людзі, апошнім куском гатовы падзяліцца. А не заўсёды гэта патрэбна.

Жанчыны пераважна дараць — мужчыны больш устойлівыя, больш «грубасардэчныя».

Столькі маіх 5-цімінутныхназіранняў жабрачага лёсу. Перастала глядзець не таму, што жабрак перастаў жабраваць ці людзі перасталі сыпаць, а таму, што і так ужо разазлавалася.

Адно толькі яшчэ маю ў галаве: 27 асоб, якія кінулі за гэтыя 5 мінут у шапку жабрака свае залатоўкі. Многа ці мала? Колькі зарабляе жабрак? Падлік лёгкі і просты. За падставу бяру дзень працы звычайнага рабочага — 8 гадзін. Такіх дзён у месяцы (у сярэднім) 25. Гэта 12 000 мінут у месяц. Дар кожнага з 27 асоб прымаем па 50 грошай. То 33.400 злотых у месяц. 1340 зл. у дзень. Хто з вас калі хоць марыў аб такой днёўцы? Скажа мо' хто: не заўсёды жабраку ўдаецца, не кожнаму... Добра, будзем крайнімі. Паменшым заробкі жабрака ў 25 раз. Няхай яго днёўка замяніцца ў месячны даход. І цяпер спытаем — колькі працы каштуе гаспадару, рабочаму зарабіць у месяц 1340 зл?

А колькі жабраку?

Тым часам — к чаму ўсё гэта? Бяздомныя маюць дамы старцаў, інваліды — інвалідскія пенсіі, старыя — старчыя пенсіі, удовы — удовія. І яшчэ: разнародная матэрыяльная дапамога камітэтаў дапамогі, аддзелаў здароўя, якія выплачваюць т.зв. запамогі, засілкі. Тых, якія здольны працаваць, вучаць і даюць ім працу па сілах і мажлівасцях, нават умовы да працы (уласны варштат). Хто не можа стоячы, дык мае працу сідзячую. Але гэта праца. А праца — не малітва, вядома. І чырвananосыя лахматыя жабракі ведаюць аб гэтым вельмі добра. Навошта мараць рукі працай, калі на свеце яшчэ столькі «літасцівых і добрых» людзей, якія не пашкадуюць залатоўкі «няшчаснаму».

Такая яна праўда аб жабраках, якія ашукваюць нас лахманамі і малітвамі. Пакуль кінеш свае 50 гр., чытач, падумай аб гэтым.

**Вера Леўчук**

## НОВАЯ ДУБРОВА

Хто не быў у Дуброве пяць год і зноў прыехаў наведаць яе, той зараз можа не пазнаць гэтай асады. У Дуброве зараз шмат пабудавана прыгожых жыллёвых дамоў і многа ўстаноў.



**На здымку: жыллёвы будынак, на партэры якога знаходзяцца крамы і кавярня.**

# У СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ



Хлебны магазін — аўтамат у Мінску.

## Спеў і палітыка

Іў Мантан — слаўны французскі спявак і акцёр — стаўся першай ахвярай восі Парыж—Мадрыд. Па загаду ўрада французская тэлевізія вымушана была адклікаць выступленне Мантана пасля таго, як ён сказаў, вярнуўшыся з ЗША: «Спяваў я для Хрушчова, быў прадстаўлены каралеве Елізавеце, сядзеў пры адным стале з Бен-Гурыёнам, а цяпер вяртаюся з Белага Дома. Ёсць аднак край, якога ніколі не адведаю: Іспанія. І адзін чалавек, для якога ніколі не выступлю: Франко». (вл)

## Ці ўмееце вы...

### ...зрабіць замазку для печаў?

Каб абмазка печаў не трэскалася пры моцным награве, да звычайнага глінянага цеста дадаюць 5% (па вазе) здробненага азбеставага валакна. Валакно можна прыгатаваць з азбеставых пракладак, іх размочваюць у цёплай вадзе і расціскаюць рукамі да ўтварэння кашкі, якую дадаюць у гліну.

## Звяры — не негры

Міністр справядлівасці Паўднёва - афрыканскага Саюза нядаўна апрацаваў праект пастановы, згодна з якім прадбачаны высокія кары за здзекі над звярамі. І так, звярам могуць зайздросціць мільёны неграў, што пражываюць у Саюзе, якія не маюць ніякіх празоў. а-(ся)

## Як пазбыцца доўгу?

Кожны сапраўдны жыхар Сіяма перад новым годам стараецца пасплачваць усе даўгі. Бывае, што даўжнік не мае чым заплаціць доўг. Радзіць тады сабе інакш: падпальвае дом таго, ад каго пазычыў, разважаючы, што згарыць дом і з ім разам кніга, дзе ўпісан доўг. Хоць улады караюць смерцю падпальшчыкаў, штогод у Сіяме згарае некалькі тысяч дамоў. У мінулым годзе ў адным Банкоку (сталіца) згарэла 1100 дамоў, а 10 тыс. людзей асталося без даху над галавой. (вп)



Вось яна, слаўная наша пані Матысякова — у сапраўднасці папулярная варшаўская актрыса Станіслава Пэжаноўская ў час атрымання ганаровай залатой адзнакі Варшавы. (вл)

# КІТАЙСКІ КРАЯВІД



Водная «магістраль» сярод пальм у Куангунгу. вл

## Амерыку адкрыў не Калумб?

«А хто?» — спытаеце вы...

Перш чым даць адказ, успомнім, што адбылося з адным амерыканскім фермерам каля 50-ці год таму назад...

Пасярэдзіне поля, дзе фермер сеяў з году ў год пшаніцу, рос стогадовы дуб. Хоць дрэва і замінала, але фермеру было шкада яго ссекчы. Неяк пачалася страшэнная навальніца. Бесперапынныя раскаты грому, маланкі пранізвалі чорны небасхіл. Адна з іх трапіла ў дуб, абпаліла яго і расшчапіла да самага нізу. Пасля гэтага дрэва засохла. Фермеру нічога не заставалася, як спіліць дуб. Ён гэта і зрабіў. Выкарчоўваючы пень, фермер на дне ямы заўважыў незвычайнай формы, груба абчэсаны камень. Ён зацікавіўся ім, ачысціў ад зямлі і заўважыў на яго паверхні надпісы на невядомай мове. Знаходкай фермера заняліся вучоныя. Спецыялістамі было ўстаноўлена, што надпісы зроблены рунічнымі пісьменамі (старажытнаскандынаўскімі). Іх маглі пакінуць толькі скандынавы — нарманы, прыкладна за 500—600 год да таго, як на амерыканскі бераг высадзіўся Калумб.

Такія меркаванні і факты.

## Вадзяны нож

Вада замяніць можа таксама нож або пілу. Калі адпаведна сціснуць ваду, а потым танюсенькую струю, выпушчаную пад вялікім напорам, накіраваць на нейкі прадмет (напрыклад дрэва), будзе яна рэзаць, як востры нож. Доследы, праведзеныя ў Амерыцы, гавораць, што пілаванне дрэва гэтым спосабам з'яўляецца таннейшым ад традыцыйнага.



# НАША СЯМ'Я

СТУДЗЕНЬ, 1963 г.... Працы чартоўскі многа. Кожны дзень — праца: вучоба, трэніроўка на спецыяльных стэндах, парашутная падрыхтоўка, палёты ў дзённых і начных умовах і шмат іншага. Потым залікі, экзамены. Але калі з'яўляюцца свабодныя хвіліны, люблю пахадзіць па Маскве або пагаварыць і памарыць аб тым, што мы ўбачым... на Месяцы, на Марсе ці Венеры.

Бывае, у свабодны час мы збіраемся і для іншых мэтаў: шчыра, без хітрыкаў, пагаварыць аб усім. Гэта свайго роду сход, але... не заўсёды афіцыйны. У нас гэта называецца — проста сабрацца. І мы збіраемся. Навошта? А вось, напрыклад, нехта з нас правініўся або пачаў нос задзіраць. Вось мы і вырашаем: трэба сабрацца.

І ўсе збіраюцца: трэба, значыць, трэба.

На гэтым сходзе няма рангаў. Тут дружны калектыў камуністаў і камсамольцаў. І Гагарыну, дык Гагарыну, Цітову, дык Цітову, Паповічу, дык Паповічу, Нікалаеву — Нікалаеву — любому «закладываюць», калі заслужыў. Без доўгіх прамоў, канкрэтна.

Слаўныя падабраліся ў нас хлопцы. Быццам і падобныя адзін на аднаго, і ў той жа час у кожнага нешта сваё, чаго нельга не прыкмеціць. Злучае ўсіх адно — імкненне стаць пілотам касмічных караблёў.

Гэта мара была ў сарамлівага і добрага Юрыя Гагарына.

Марыў аб палёце да зор і Герман Цітоў. Вось цікавы хлапец! Ён у адзін момант патрапіць наладзіцца на тон субяседніка, і заўсёды вясёлы. Але і ён часам бывае задумлівы, стрыманы, лаканічны, быццам «сухар». Але Герман заўсёды застаецца самім сабой — добрым, простым, інтэлігентным. Так, так, менавіта інтэлігентным.

Вясёлы і дасціпны Паша можа выдацца самым старшым — «старыком». Але гэту саліднасць прыдае яму не знешнасць, а падпалкоўнічыя пагоны. Як не круці — старшы афіцэр.

Сярод нас ёсць і мастак - аматар, яго малюнкамі не раз захапляліся хлопцы. Талент!

Ёсць і матэматык, наш неадменны памочнік у тэхнічных навуках. Перад яго эрудыцыяй схіляемся мы ўсе, ён жа інжынер і лётчык.

Скромніцу Андрэя ўсе мы любім за сумленнасць, смеласць, высакародства душы. А яго дублёр, непаседлівы з хітрынкай у вачах, знешне вельмі падманны. Невялікага росту, кволы з выгляду, а ў сябе ў часці ён слыў адным з лепшых паветраных байцоў.

А іншыя? Аб усіх не раскажаш. Ды і падрабязна гаварыць цяпер, бадай, рана. Але важны вывад — хлопцы слаўныя.

Нашы хлопцы атрымліваюць многа пісем. Сярод іх ёсць і такія, у якіх звяртаюцца да ўсіх адразу. Яўгеній Аляксандравіч Іванаў прыслаў вершы.

Скоро, может быть,
даже завтра
Полетим мы уже к Луне,
А в растущей семье
космонавтов
Ивановых все нет и нет!
Нет! Не всё так, как
кажется, просто:
Нас ведь столько
в родной стране,
Вдруг подумают: в битве
за космос
Ивановы стоят в стороне!
Я от имени их взял слово,
И смысл просьбы моей
таков:
«Пропустите вперед
Иванова:
Он ведь тоже лететь
готов!»

Зразумець таварыша Іванова не цяжка. Але я не магу з ім згадзіцца: Гагарын, Цітоў, Нікалаеў, Паповіч гэта тыя ж самыя Івановы, аб якіх ён піша.

**Лётчык - касманаўт К.**
(«Авиация и космонавтика»)

